# Голас Радзімы

№ 47 (2033)
19 лістапада 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Светлагорск лічыцца на Беларусі горадам маладым. Зразумела, тут, як і ўсюды, ёсць пажылыя людзі. Але сярэдні ўзрост светлагорцаў — 28 гадоў! А ўсё, што маладое, павінна расці, прыгажэць, набіраць сілу. І людзі, і гарады. Толькі сёлета ў Светлагорску здадзена ў эксплуатацыю 20 тысяч квадратных метраў жылля. А гэта значыць, што 360 сем'яў пераехалі ў новыя кватэры.

НА ЗДЫМКУ: растуць паверхі Светлагорска.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

ВІЗІТЫ

## ПРЫЕЗД ІНДЫЙСКІХ ГАСЦЕЙ

У Мінску пабываў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Індыі ў СССР Трылакі Натх Кауль. Ён быў запрошаны на адкрыццё выстаўкі індыйскага жывапісу ў сталіцы рэспублікі. У фае Дзяржаўнага Мастацкага музея БССР сярод лепшых твораў беларускіх майстроў індыйскія госці ўбачылі скульптурны партрэт Рабіндраната Тагора — работу народнага мастака СССР З. Азгура. Гэтая сустрэча тут са славутым індыйскім мысліцелем, пісьменнікам-гуманістам аказалася тым больш сімвалічнай, што большая частка прывезенай з Нью-Дэлі выстаўкі складаецца з карцін яго пляменніка Абаніндраната Тагора і паслядоўнікаў заснаванай ім школы ў мастацтве. Выстаўка арганізавана ў рамках фестывалю Індыі, які праходзіць у СССР.

Трылакі Натх Кауль нанёс візіт першаму сакратару ЦК Кампартыі Беларусі Я. Сакалову, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. Таразевічу і Старшыні Савета Міністраў БССР М. Кавалёву.

Сустрэчы прайшлі ў цёплай, дружалюбнай абстаноўцы.

У ААН

## ПРАЕКТ РЭЗАЛЮЦЫІ БССР

У першым камітэце (палітычныя пытанні і пытанні бяспекі, уключаючы раззбраенне) Генеральнай Асамблеі ААН ідзе прыняцце рэзалюцый па праблемах раззбраення.

Дэлегацыя Беларускай ССР унесла сумесна з 20 сааўтарамі праект рэзалюцыі аб забароне распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння і новых сістэм такой зброі. У ім змяшчаюцца прапановы аб канкрэтных мерах для прадухілення такіх відаў зброі.

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## ЖЫЛЛЁ ПА ЖАДАННЮ

У штатным раскладзе калгаса імя М. Горкага Пінскага раёна паявілася пасада... архітэктара. Некалькі гадоў назад па ініцыятыве выканкома сельскага Савета было прынята рашэнне аб павелічэнні адлічэнняў грашовых сродкаў на сацыяльныя патрэбы. За кароткі тэрмін распрацавалі генеральны план рэканструкцыі і добраўпарадкавання вёсак. У адпаведнасці з праграмай сацыяльнага развіцця адкрыліся лагер працы і адпачынку моладзі, два стаматалагічныя кабінеты. Усе восем вёсак калгаса забудаваны драўлянымі і цаглянымі катэджамі сельскага тыпу. Прычым любая сям'я можа выбраць жыллё па густу.

Ужо ў бягучай пяцігодцы тут справілі наваселле дзесяткі сем'яў, паявіліся дзіцячы сад, сучасны гандлёвы цэнтр, новы Дом культуры.

УЗАЕМААБМЕН

## СУПРАЦОЎНІЦТВА ВУЧОНЫХ

Сарты морквы «вітамінная-6» і «ласінавостраўская-13», якія стварылі вучоныя падмаскоўнага навукова-даследчага інстытута гародніннай гаспадаркі, «перакачавалі» да агароднікаў Беларусі. Яны прайшлі выпрабаванні на гародах Палесся і перададзены ў масавую вытворчасць. Узяты беларускімі агароднікамі гуркі «крышталь» і «стэла». А ў Мыцішчы, дзе размешчаны НДІ, завозяць з Беларусі насенную бульбу.

АЎТАМАТЫЗАЦЫЯ

## «ІКАР» ЛЯЦІЦЬ ЗА НАВАЛЬНІЦАЙ

«Ікар» — так называецца сістэма аўтаматызацыі лётных эксперыментаў, распрацаваная для Цэнтральнай аэралагічнай абсерваторыі вучонымі Інстытута электронікі Акадэміі навук Беларусі. Яе ўкараненне дазваляе эканоміць вялікія сродкі, паколькі пры ацэнцы ступені градавай небяспекі воблачнага фронта выгадваецца адразу некалькі гадзін. Створаныя ў Мінску прыборы і праграмнае забеспячэнне для бартавых ЭВМ значна павысілі навуковую ўзброенасць самалётаў-метэалабараторый.

КААПЕРАТЫВЫ

## ХАЛАДЫ НЕ ПЕРАШКОДА

Пакаштаваць беларускага вінаграду запрасіў мінчан кааператыў, створаны ў саўгасе «Дэкаратыўныя культуры» Мінскага раёна. Праўда, спачатку давядзецца вырасціць янтарныя ягады з чаранкоў. Менавіта іх і прапанавалі пакупнікам.

Сёлетняй восенню кааператары вырашылі вывучыць попыт, нарыхтаваўшы каля [illegible] ці тысяч гучкоў. А парасткаў ч[illegible]х парэчак чатырох сартоў — гэтыя ягады разводзяць многія ўладальнікі прысядзібных і садовых участкаў — было прададзена ў чатыры разы больш.

Цяпер у садоваагародных таварыствах значы[illegible] 210 тысяч сямей. І хаця ў Беларус[illegible] мала спецыялізаваных гаспадарак, што рэалізуюць саджанцы фруктовых дрэў і кустоў, яны не паспяваюць за растучым попытам. Таму ў саўгасе станоўча сустрэлі прапанову энтузіястаў. Выдзелілі зямлю, дапамаглі з пасадачным матэрыялам.

Падобныя кааператывы плануецца стварыць у кожным буйным горадзе рэспублікі.

ВЫСТАЎКІ

## УЗНАГАРОДЖАНЫ ЗАЛАТЫМ МЕДАЛЁМ

У чэхаславацкім горадзе Чэска-Будзеёвіцэ прайшла традыцыйная міжнародная сельскагаспадарчая выстаўка «Зямля-карміцелька-87». Нашу краіну прадстаўлялі беларускія земляробы. Працоўныя ЧССР, прадстаўнікі дзелавых колаў іншых краін азнаёміліся з работай аграпрамысловага комплексу Беларускай ССР, яе дасягненнямі ў эканамічным і сацыяльным развіцці.

У шасці раздзелах выстаўкі было больш за 650 экспанатаў. З беларускай экспазіцыяй азнаёмілася каля 800 тысяч чалавек.

У час работы выстаўкі быў праведзены конкурс экспанатаў на прыз «Залаты колас-87». Залатым медалём узнагароджаны набор чайных напіткаў з траў віцебскага аграпрамысловага аб'яднання «Дзвіна». А набор зефіру Бабруйскай кандытарскай фабрыкі ўдастоены Ганаровай граматы конкурсу.

ГРАМАДСКІ ТРАНСПАРТ



Справіў наваселле аўтавакзал у Бабруйску. У параўнанні з ранейшым намнога ўзрасла яго прапускная здольнасць. Тут зручна размешчаны білетныя касы, да паслуг пасажыраў — прасторная зала чакання, кафэ.

НА ЗДЫМКУ: новы аўтавакзал у Бабруйску.

НА ВДНГ СССР

## ПОСПЕХ ПЧАЛЯРОЎ

Смілавіцкі саўгас-тэхнікум пастаянна ўдасканальвае падр[illegible]тоўку кадраў тэхнікаў-пчаляроў, ум[illegible] ўкараняе новыя метады павышэння [illegible]рафесіянальнага майстэрства навучэнцаў. Сёння передавы вопыт саўгаса-тэхнікума стаў сапраўднай школай для многіх навучальных устаноў, аб чым сведчыць экспазіцыя «Вопыт Смілавіцкага саўгаса-тэхнікума», я[illegible] адкрылася ў павільёне «Пчаляр[illegible]» на ВДНГ СССР у Маскве.

Тут заўсёды мнагалюдна. Збіраюцца пчаляры, выкладчыкі, спецыялісты, каб пераняць вопыт работы смілаўчан. Многія цікавяцца вопытам правядзення навукова-тэарэтычных канферэнцый з удзелам передавых пчаляроў, дыдактычным прыёмам, які ўпершыню ўкаранілі ў Смілавіцкім саўгасе-тэхнікуме. У экспазіцыі расказваецца і аб кіраўніку секцыі сталярнай справы М. Вавілаве, які вось ужо 30 гадоў вучыць будучых пчаляроў вырабляць вуллі, рамантаваць інвентар.

МУЗЕІ

## АД ПЕРШАГА ЛЕКАРА

Незвычайная для лячэбнай установы таблічка паявілася на дзвярах аднаго з кабінетаў Берастаўіцкай раённай паліклінікі. Напярэдадні 70-годдзя Вялікага Кастрычніка тут адкрыўся музей аховы здароўя. Дакументы, фатаграфіі, пісьмы і ўспаміны першых урачоў, беражліва сабраныя энтузіястамі, аднаўляюць гісторыю аховы здароўя ў раёне. Першы лекар прыехаў сюды ў 1925 годзе, а бальніца і амбулаторыі былі адкрыты толькі ў трыццаць дзевятым. У час Вялікай Айчыннай вайны медыкі актыўна дапамагалі партызанам, перапраўлялі ў лес лякарствы, лячылі параненых.

Сёння некалі глухі куток Беларусі мае добра развітую сетку медыцынскіх устаноў. Прыём хворых вядуць урачы 17 спецыяльнасцей. Акрамя раённай, працуюць дзве сельскія участковыя бальніцы. У калгасах, саўгасах, прафтэхвучылішчах адкрыта 16 фельчарска-акушэрскіх пунктаў і 2 пункты аховы здароўя.

СВЯТА ГАЗЕТЫ

## РАВЕСНІЦА РЭВАЛЮЦЫІ

Споўнілася семдзесят гадоў абласной газеце «Гомельская праўда». Равесніца Кастрычніка, якая абвясціла на Гомельшчыне аб яго перамозе ўжо на пяты дзень пасля рэвалюцыі, яна стала актыўным барацьбітом за ажыццяўленне яе ідэй, устанаўленне Савецкай улады на Палессі.

На працягу ўсёй сямідзесяцігадовай гісторыі галоўнымі карэспандэнтамі газеты былі самі чытачы. І цяпер «Гомельская праўда», якая выходзіць тыражом амаль сто тысяч экземпляраў, мае сотні пастаянных нештатных аўтараў. Многія з іх прыйшлі на свята газеты, што адбылося нядаўна ў горадзе над Сожам.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ГРОДНА. Гродзенскаму заапарку споўнілася 60 год. Тут прадстаўлена звыш трох тысяч жывёл, птушак, рыб — выхадцаў з усіх кантынентаў. Некаторыя занесены ў міжнародную Чырвоную кнігу. Сярод самых рэдкіх жывёл — снежны барс, суматранскі тыгр, алень Давыда, кітайскі алігатар, ягуар, туркменскі кулан, кобра, зубр, белы мядзведзь.

ЛІДА. Імя 70-годдзя Вялікага Кастрычніка—так названа новая вуліца ў вёсцы Вавёрка, дзе напярэдадні свята ў дамах сядзібнага тыпу справілі наваселле працаўнікі калгаса імя Чапаева Лідскага раёна. У добраўпарадкаваныя кватэры пераехалі дзесяць сем'яў. Яны маюць таксама прысядзібныя ўчасткі, збудаванні для ўтрымання жывёлы і птушкі, склепы.

Акрамя жылля, у калгасе нядаўна здадзены ў эксплуатацыю буйны гандлёвы цэнтр з прамтаварным і прадуктовымі магазінамі, гасцініцай, сталовай, комплексным прыёмным пунктам бытавога абслугоўвання. Заасфальтавана цэнтральная вуліца пасёлка.

ГОМЕЛЬ. У інфармацыйна-вылічальным цэнтры пры Гомельскім аблаграпроме пачалося ўкараненне аўтаматызаванай сістэмы кіравання жывёлагадоўляй. У камп'ютэр будуць закладзены ўсе неабходныя звесткі аб жывёле, што маецца ў гаспадарцы. Добрае веданне ўсіх генетычных даных дае магчымасць лепш кіраваць працэсам павышэння прадукцыйнасці малочнага статку.

ФОТАРЭПАРТАЖ





Ніці дзелавога супрацоўніцтва звязалі Беларускую занальную доследную станцыю па птушкагадоўлі, размешчаную ў гарадку Заслаўе Мінскага раёна, з дзесяткамі прадпрыемстваў краіны. Украіна, Узбекістан, Кіргізія, Грузія, Паўднёвы Сахалін — вось далёка не поўны пералік рэгіёнаў, птушкагадоўчыя гаспадаркі якіх ахвотна купляюць прадукцыю беларускай селекцыі. Шырокае распаўсюджанне ў краіне атрымалі пяць кросаў кур, выведзеных на станцыі. Добрую славу стварылі ім высокая прадукцыйнасць птушкі, яе здольнасць лёгка акліматызавацца ў розных зонах краіны і добрая захаванасць маладняку. Больш за дваццаць навуковых супрацоўнікаў, з якіх дзесяць — кандыдаты навук, вядуць тут штодзённы пошук.

НА ЗДЫМКАХ: гэтыя кураняты выведзены на станцыі; лабараторыя вылічальнай тэхнікі. Аператар Клаўдзія ШУБІНА і праграміст Таццяна БУРАК праглядаюць матэрыялы першаснай апрацоўкі селекцыйных даных.

*АХОВА ЗДАРОЎЯ Ў БССР І ПЕРАБУДОВА*

# ЧЫМ ГАНАРЫМСЯ, ШТО НЕ ЗАДАВАЛЬНЯЕ



**Прапаноўваем чытачам газеты «Голас Радзімы» выступленне міністра аховы здароўя Беларусі Уладзіміра УЛАШЧЫКА. Тэма сённяшняй размовы: сучасны стан спраў у галіне аховы здароўя насельніцтва рэспублікі.**

СПОЎНІЛАСЯ 70 год, як улада ў нашай дзяржаве перайшла ў рукі народа, у рукі людзей працы. І таму будзе натуральным успомніць, што ж дасталася нашаму сацыялістычнаму грамадству ад царскага рэжыму ў галіне аховы здароўя, і параўнаць гэтую «спадчыну» з тым, што мы маем сёння.

Напэўна, ужо нямногія з чытачоў газеты помняць тыя далёкія гады. Не бачыў іх і я. Але лічбы, успаміны, гістарычная навука дазваляюць нам зазірнуць у дзень учарашні, пазаўчарашні, каб цвяроза і аб'ектыўна ацаніць сённяшні, бачыць перспектыву будучага. У дарэвалюцыйнай Беларусі налічвалася ўсяго 240 невялікіх бальніц на 6 445 ложкаў, а гэта значыць усяго 9,3 на кожныя 10 000 насельніцтва, 139 амбулаторый і 224 фельчарскія пункты. Факт і тое, што радыус урачэбнага абслугоўвання на сяле складаў 60 — 100 кіламетраў, а на адзін урачэбны ўчастак прыпадала ад 50 да 100 тысяч жыхароў. На справе гэта азначала, што з-за бездарожжа і дрэннага транспарту сяляне практычна былі пазбаўлены кваліфікаванай медыцынскай дапамогі. І, мне здаецца, можна не баяцца сказаць, што Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя выратавала беларускі народ, як і многія іншыя нацыянальныя меншасці царскай Расіі, ад вымірання. Факт і тое, што цяпер у рэспубліцы адзін з самых нізкіх узроўняў агульнай смяротнасці—9,7 на 1 000 чалавек. Сярэдняя працягласць жыцця ў БССР складае 71 год, што практычна адпавядае сярэдняму агульнаеўрапейскаму ўзроўню і перавышае агульнасаюзны. Няўмольная ж статыстыка нам пакінула і такую лічбу: у 1913 годзе гэты паказчык для беларуса быў роўны ўсяго 37 гадам.

Прыйсці да гэтага мы не змаглі б без сапраўды рэвалюцыйных пераўтварэнняў у галіне аховы здароўя нашых людзей за гады Савецкай улады.

Цяпер, яшчэ не нарадзіўшыся, маленькі чалавек і яго маці знаходзяцца пад уважлівым медыцынскім кантролем. Аб якой жа працягласці жыцця ў дарэвалюцыйнай Беларусі можна гаварыць, калі тады памірала кожнае шостае дзіця, а медыцынскіх устаноў тыпу нашых сучасных жаночых кансультацый не існавала ўвогуле. Сёння ж у рэспубліцы ўсе жанчыны атрымліваюць медыцынскую дапамогу пры родах у радзільных дамах і спецыяльных аддзяленнях бальніц, а мацярынская смяротнасць тут вагаецца ад 0,1 да 0,2 на 1 000 родаў, што таксама адпавядае паказчыкам большасці еўрапейскіх краін. Цяпер здароўе нашых дзяцей у рэспубліцы ахоўваюць чатыры з палавінай тысячы ўрачоў. А на базе Беларускага навукова-даследчага інстытута аховы мацярынства і дзяцінства арганізуецца Рэспубліканскі цэнтр здароўя маці і дзіцяці. Мы ўскладаем на яго вялікія надзеі: з дапамогай цэнтра гэта няпростая справа будзе ўдасканальвацца.

Актыўнае развіццё атрымала ў рэспубліцы спецыялізаваная медыцынская дапамога, аб якой да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі і марыць не даводзілася. Спачатку стваралася анкалагічная, супрацьтуберкулёзная і скурна-венералагічная дапамога — ва ўсіх абласцях і буйных гарадах адкрыліся адпаведныя спецыялізаваныя дыспансеры. У далейшым атрымала такое ж развіццё эндакрыналагічная, псіханеўралагічная і кардыялагічная службы, а таксама хуткая і неадкладная медыцынская дапамога. У апошнія гады шырокае развіццё ў рэспубліцы атрымалі нефралогія і ўралогія, нейрахірургія, гепаталогія, сасудзістая хірургія і мікрахірургія, рэаніматалогія, неўрапаталогія, афтальмалогія, практалогія і інш. Спецыялізацыя закранула і ўсе раздзелы тэрапіі. І я магу з усёй адказнасцю сказаць, што цяпер у Беларусі на добрым узроўні ўсе віды спецыялізаванай медыцынскай дапамогі. Нас радуе, што спецыялізацыя — адзін з асноўных шляхоў развіцця сучаснай медыцыны — уваходзіць і ў сельскую ахову здароўя.

Магчыма, у некага з замежных чытачоў, тых, хто дрэнна ведае нас і наша жыццё, можа ўзнікнуць пытанне аб даступнасці гэтай высокакваліфікаванай медыцынскай дапамогі. Што ж, я думаю, тыя з суайчыннікаў, хто бывае на Радзіме, падтрымлівае з ёю пастаянную сувязь, змогуць і самі расказаць, што ў Савецкім Саюзе ўсе грамадзяне [illegible]аюць Канстытуцыяй замаца[illegible] права на бясплатнае, роўнае для ўсіх сацыяльных слаёў і катэгорый насельніцтва права на медыцынскую дапамогу.

Але можа ўзнікнуць і такое пытанне: калі ў вас у[illegible] удоўна, то адкуль так[illegible] трывога ў грамадстве наконт аховы здароўя савецкіх людзей?

На гэта трэба адказаць прама і аб'ектыўна.

Справа ў тым, што застойныя з'явы, якія назіраліся на рубяжы 70-х—80-х гадоў у нашым грамадстве, эканоміцы, не маглі не закрануць і медыцыну. Прыйшоў час гаварыць аб гэтым адкрыта і, галоўнае, змяняць існуючае нездавальняючае становішча. Напэўна, чытачы «Голасу Радзімы» па публікацыях газеты ўжо мелі магчымасць пераканацца: падрыхтоўка да свята 70-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі была звязана не толькі з упрыгажэннем нашага агульнага дома — Савецкай краіны, але ў асноўным з вялікай работай па яго паляпшэнню, ачышчэнню ад пылу, што накапіўся за гады няпростай гісторыі. І вядома ж, перабудова не магла не закрануць і ахову здароўя, тым больш, што нявырашаных праблем набралася ўжо дастаткова. Гэтым было выклікана з'яўленне вельмі важнага і актуальнага дакумента. Савецкім людзям прапанаваны для абмеркавання праект пастановы ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Асноўныя напрамкі развіцця аховы здароўя насельніцтва і перабудовы аховы здароўя СССР у дванаццатай пяцігодцы і на перыяд да 2000 года». Дык што ж нас не задавальняе канкрэтна?

Значная частка — у Беларусі амаль палавіна сёння існуючых — устаноў аховы здароўя размешчана ў прыстасаваных і старых будынках. З такой сітуацыяй больш мірыцца нельга, таму тут намечаны канкрэтныя меры для выпраўлення становішча. Яшчэ не ва ўсіх бальніцах і паліклініках створаны добрыя ўмовы для хворых, патрабуе значнага ўдасканальвання і аснашчэнне многіх лячэбных устаноў. Прычына адставання не адна. Але ёсць асноўная — вялікі ўрон, нанесены матэрыяльна-тэхнічнай базе аховы здароўя ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі амаль 80 працэнтаў усіх бальніц, паліклінік і іншых медыцынскіх устаноў было разбурана і спалена, страчана каля палавіны ложкаў, што меліся ў даваенны перыяд. Запатрабавалася па-сапраўднаму тытанічная праца ўсяго беларускага народа і вялікая дапамога брацкіх народаў нашай краіны, каб у кароткі тэрмін аднавіць сетку медыцынскіх устаноў і забяспечыць іх кадрамі. Таму на бліжэйшыя гады асноўнай задачай, што стаіць перад аховай здароўя, з'яўляецца рэканструкцыя многіх бальніц, паліклінік, прывядзенне іх у поўную адпаведнасць з сучаснымі патрабаваннямі. На гэтыя мэты дзяржаўныя капітальныя ўкладанні будуць штогод павялічвацца і ўжо ў 1988 годзе ў БССР складуць больш як 100 мільёнаў рублёў. Акрамя таго, на капітальнае будаўніцтва ўстаноў аховы здароўя плануецца прыцягваць сродкі прамысловых прадпрыемстваў і аб'яднанняў, саўгасаў і калгасаў.

Я ўжо гаварыў аб развіцці спецыялізаванай медыцынскай дапамогі. Ёсць яшчэ «вузкія» месцы і тут. Так, пакуль захоўваецца чарга на зубапратэзаванне, а захворванне насельніцтва карыесам і парадантозам застаецца высокім. Некалькі затармазілася ў рэспубліцы развіццё афтальмалагічнай дапамогі, якая займала раней передавыя пазіцыі ў краіне. Мае патрэбу ў паляпшэнні матэрыяльна-тэхнічная база скурна-венералагічных, эндакрыналагічных і псіханеўралагічных дыспансераў, а таксама службы хуткай медыцынскай дапамогі. Далейшае развіццё павінна атрымаць і заводская медыцына. Апошнія словы, відаць, патрабуюць тлумачэння для замежных чытачоў. Названая з'ява характарызуе наш савецкі лад жыцця, адну з праяў клопату дзяржавы аб рабочых людзях. А сэнс яе ў тым, што буйныя прамысловыя прадпрыемствы на ўласныя сродкі для абслугоўвання сваіх рабочых, інжынераў, служачых адкрываюць медыка-санітарныя часці — медыцынскія ўстановы, аналагічныя паліклінікам, санаторыі-прафілакторыі, а часам і цэлыя бальніцы.

Але сёння, мы лічым, такі працэс мог бы ісці і больш інтэнсіўна. Аб гэтым была размова на нядаўняй сустрэчы ў Мінску міністра аховы здароўя СССР Я. Чазава з кіраўнікамі рэспублікі, савецкімі і гаспадарчымі работнікамі, медыкамі. Намечана ў самы бліжэйшы час пабудаваць у Беларусі яшчэ 17 заводскіх медыка-санітарных часцей на 6 000 ложкаў. Тады ж гаварылася і аб павышэнні адказнасці міністэрстваў і ведамстваў, адміністрацый асобных прадпрыемстваў за экалагічную чысціню нашых гарадоў, што самым непасрэдным чынам звязана з аховай здароўя насельніцтва рэспублікі. Так, людзей вельмі непакоіць, што ў Наваполацку, Магілёве, Гродне, Светлагорску, Салігорску, некаторых іншых месцах рэспублікі з-за пастаяннага нарошчвання вытворчых магутнасцей на прадпрыемствах вытворчых аб'яднанняў «Палімір», «Нафтаоргсінтэз», «Азот», заводзе штучнага валакна імя Куйбышава і іншых, маруднага ўкаранення прагрэсіўных тэхналогій забруджваецца паветра, воды бліжэйшых рэк і азёр.

Прыкметнае развіццё ў рэспубліцы атрымалі фізіятэрапеўтычная дапамога і санаторна-курортная справа. Калі да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі быў толькі адзін прыватны, аснашчаны некалькімі імпартнымі апаратамі фізіятэрапеўтычны кабінет, то сёння функцыяніруюць больш за 1 100 фізіятэрапеўтычных аддзяленняў і кабінетаў, абсталяваных самай сучаснай айчыннай апаратурай. У іх штогод 4-5 мільёна[illegible]рых атрымліваюць звыш 47 [illegible]ільёнаў працэдур. Сёння ў рэспубліцы маецца 49 санаторыяў і пансіянатаў з лячэннем, 16 пансіянатаў і дамоў адпачынку, 109 санаторыяў-пра[illegible]лакторыяў. Гэта нямала, а[illegible]ўжо недастаткова. Асабліва [illegible]дчуваецца ў нас недахоп дзіцячых санаторыяў. Мы ўжо спрабуем выправіць становішча: у бліжэйшыя некалькі год плануем пабудаваць пяць санаторыяў на 1 240 месцаў, але і гэтага, лічым, мала. Будзем працаваць над вырашэннем гэтай важнай праблемы і далей.

Да Вялікага Кастрычніка страшэнным бедствам у Беларусі былі інфекцыйныя хваробы. Нават у 1921 годзе ў кожнага сёмага жыхара мелася інфекцыйнае захворванне, а з 100 захварэўшых 5—7 паміралі. У сувязі з гэтым у 1919—1922 гадах Саўнаркам БССР прыняў шэраг дырэктыў, якія паклалі пачатак санітарнаму заканадаўству ў рэспубліцы, а ў верасні 1926 года зацвердзіў палажэнне аб санітарных органах. Намаганнямі створанай сеткі санітарна-эпідэміялагічных устаноў, у якіх да 1940 года ўжо працавала 320 урачоў і больш за 1 500 сярэдніх медыцынскіх работнікаў, удалося хутка скараціць або ліквідаваць захворванне на многія заразныя хваробы. За гады вайны з фашызмам 80 працэнтаў санітарна-эпідэміялагічных станцый і 96 працэнтаў процімалярыйных было разбурана. І ў пасляваеннай Беларусі зноў пачаліся эпідэміі, рэзка павялічылася захворванне на туберкулёз, малярыю, трахому, страўнікавыя інфекцыі... Дзякуючы дапамозе ўсіх народаў СССР, да 1950 года ў рэспубліцы зноў ліквідавалі масавыя інфекцыйныя захворванні. За апошнія пяць год інфекцыйныя захворванні знізіліся ў нас на 30 працэнтаў і сталі самымі нізкімі ў краіне.

У БССР нядрэнна вырашаны пытанні лекавай дапамогі насельніцтву. Калі ў 1924 годзе ў рэспубліцы працавала 122 аптэкі, то цяпер 1 200. Палавіна іх размешчана ў сельскай мясцовасці. Акрамя таго, на вёсцы арганізавана больш трох тысяч аптэчных пунктаў. У цэлым попыт на медыкаменты ў нас задавальняецца ў дастатковай ступені. Выключэнне пакуль, на жаль, тут складаюць асобныя сардэчна-сасудзістыя сродкі, некаторыя антыбіётыкі і ферментныя прэпараты. Намячаюцца меры па ліквідацыі гэтага дэфіцыту. Стаўка робіцца на айчынныя распрацоўкі. Для таго, каб усё сказанае не засталося толькі словамі, павінны пастарацца людзі. У нас у краіне і ў Беларусі таксама існуе нямала медыцынскіх навучальных устаноў розных рангаў. Сёння ставіцца задача перагледзець сістэму адбору навучэнцаў, студэнтаў для іх і «мадэрнізаваць», магчыма, нават зрабіць больш жорсткай саму падрыхтоўку медыцынскіх кадраў. Занадта вялікая адказнасць кладзецца на медыкаў — адказнасць за чалавечае жыццё, каб лёгкадумна ставіцца да іх навучання.

Сваіх урачоў да рэвалюцыі ў Беларусі ўвогуле не рыхтавалі, а сярэдніх медыцынскіх работнікаў выпускала адно Магілёўскае медыцынскае вучылішча. У 1913 годзе колькасць урачоў раўнялася 1 167, а сярэдняга медперсаналу 21 180. Сёння мы маем звыш 38 тысяч урачоў і 110 тысяч работнікаў з сярэдняй медыцынскай адукацыяй. Падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў цяпер ажыццяўляюць тры медыцынскія інстытуты — у Мінску, Гродне і Віцебску, інстытут удасканалення ўрачоў і 17 медвучылішчаў.

У медыцыне рэспублікі за гады Савецкай улады склаліся буйныя навуковыя школы, добра вядомыя ў нашай краіне і за мяжой, зроблены сотні важных вынаходстваў і адкрыццяў, прапанаваны новыя лякарствы і вакцыны, распрацаваны арыгінальныя метады дыягностыкі захворванняў, лячэння і прафілактыкі, якія істотна ўзбагацілі медыцынскую навуку і ахову здароўя. У якасці прыкладу можна ўспомніць аб тым, што менавіта ў Беларусі ўпершыню ў свеце быў распрацаваны метад унутрыартэрыяльнага пералівання крыві. Аб важнасці метаду, я думаю, не варта нават і гаварыць — нашым чытачам і так зразумела, што гэта значыць для жыцця хворага ў крытычны момант.

А з імёнамі беларускіх вучоных-медыкаў М. Аляксандрава і Т. Бірыч звязаны цэлыя напрамкі, школы ў савецкай анкалогіі і афтальмалогіі. За сваю працу, заслугі перад народам, вялікі ўклад у медыцынскую навуку гэтыя ўрачы-даследчыкі ўдастоены самага ганаровага для савецкага чалавека звання — Героя Сацыялістычнай Працы.

Усе ў нашай краіне разумеюць, што ўздым савецкай аховы здароўя на якасна новы ўзровень — справа агульнанародная, дзяржаўная і што імкнуцца да перабудовы ў ёй—значыць ажыццяўляць канкрэтныя крокі. Першым жа крокам для органаў і ўстаноў Беларусі павінны стаць актывізацыя і ўдасканаленне прафілактычнай і аздараўленчай работы. Цяпер пры актыўным удзеле навукова-даследчых інстытутаў распрацоўваюцца мэтавыя комплексныя праграмы па нагляду за інфекцыйнымі захворваннямі, па рацыянальнаму харчаванню, ахове навакольнага асяроддзя і іншыя. Вялікае значэнне надаецца рэалізацыі праграмы «Здароўе», удасканальванню штогадовай дыспансерызацыі насельніцтва, г. зн. рэгулярным прафілактычным медыцынскім аглядам і прапагандзе здаровага ладу жыцця.

Большасць з названых у артыкуле праблем — праблемы развіцця і росту. Неаслабная ўвага да аховы здароўя з боку дзяржавы і грамадства, пастаянна ўзрастаючыя асігнаванні на патрэбы медыцыны служаць гарантыяй іх паспяховага вырашэння.





Многа значных падзей змясціла жыццё Сяргея Царова. Нібыта ў кроплі адлюстравалася ў ім бурная эпоха, равеснікам якой ён быў. Нарадзіўся на Шклоўшчыне ў год, калі адбылася Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя. У ліку першых уступіў ён са старэйшым братам у камуну «Беларусь», арганізаваную мясцовымі сялянамі ў былой памешчыцкай сядзібе. У той суровы час мужнелі хутка. І нікога не здзівіла, калі 19-гадоваму камсамольцу Сяргею Царову прапанавалі стаць завучам сямігадовай школы. З гэтага і пачаўся яго педагагічны стаж. А потым была вайна. І ўжо на другі дзень чырвонаармеец Цароў удзельнічаў у першым баі з фашыстамі. А калі зноў паўстала пытанне аб мірнай прафесіі, Сяргей Юр'евіч ужо не сумняваўся: вядома ж, школа. Апошнюю чвэрць стагоддзя Сяргей Юр'евіч настаўнічаў у Заходскай сярэдняй школе.

НА ЗДЫМКАХ: Сяргей ЦАРОЎ — сяржант паўэскадрона сувязі; С. ЦАРОЎ гутарыць з навучэнцамі Заходскай сярэдняй школы Шклоўскага раёна.

Фота С. ЖАЛУДОВІЧА.

## ВІНШУЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ

Дарагія сябры!

Прыміце нашы сардэчныя віншаванні з вялікім святам — 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Рускае зямляцтва ў Стакгольме.
Швецыя.

У прэзідыум Беларускага таварыства «Радзіма», рэдакцыю газеты «Голас Радзімы».

Цэнтральнае праўленне Саюза савецкіх грамадзян у Бельгіі, рэдакцыя часопіса «Патриот», усе члены нашай арганізацыі сардэчна віншуюць супрацоўнікаў Таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» з урачыстым юбілеем — 70-годдзем Вялікага Кастрычніка! Жадаем вам, усяму савецкаму народу вялікіх поспехаў у новых пераўтварэннях, якія пачаліся ў нашай краіне. А таксама жадаем шчасця, моцнага здароўя, поспехаў ва ўсіх справах.

Цэнтральнае праўленне ССГ.
Бельгія.

Паважаныя супрацоўнікі Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы», дазвольце ад усіх членаў ССГ горада Бруселя сардэчна павіншаваць вас з 70-годдзем Вялікага Кастрычніка, пажадаць вам і вашым сем'ям усяго найлепшага!

Жадаем, каб перабудова прайшла як мага хутчэй і паспяхова і каб савецкія людзі зажылі яшчэ больш шчасліва!

Праўленне ССГ г. Бруселя.
Бельгія.

Паважаныя таварышы, дарагія сябры!

Венскае таварыства «Родина» горача і сардэчна віншуе калектыў Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» з гістарычна-знамянальнай датай — 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі!

Ад усёй душы жадаем вам і ўсяму савецкаму народу шчаслівага жыцця, моцнага здароўя і вялікіх поспехаў у дасягненні намечаных мэт у справе перабудовы, дэмакратызацыі і ўмацавання міру на карысць нашай любімай Айчыны.

З палымяным і шчырым прывітаннем

Ігар АСТАПОВІЧ.
Аўстрыя.

З выпадку 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі прыміце нашы віншаванні і самыя найлепшыя пажаданні ў вашай высакароднай дзейнасці на карысць далейшага развіцця дружалюбных адносін паміж Фінляндыяй і СССР.

Праўленне РКДС у г. Хельсінкі.
Фінляндыя.

Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі «Голасу Радзімы», дазвольце мне павіншаваць вас і ўвесь савецкі народ са святам 70-годдзя Вялікага Кастрычніка. Кастрычніцкая рэвалюцыя адыграла вялікую ролю не толькі ў жыцці нашай Радзімы, але і ўсяго свету. Мы, жыхары Заходняй Еўропы, сочым з глыбокай увагай за развіццём Савецкай краіны і адабраем мірныя прапановы, якія зыходзяць ад урада Савецкага Саюза. Усё больш жыхароў Заходняй Еўропы хочуць верыць, што прапановы СССР аб міры ва ўсім свеце сапраўды выканаюцца, гэта самае вялікае наша жаданне.

Браніслаў АЎГУСЦІНОВІЧ.
ФРГ.

Віншую ўсіх членаў Таварыства «Радзіма» і рэдакцыю газеты «Голас Радзімы» са знамянальным юбілеем — 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі! Шлях, пройдзены Айчынай, вялікі і слаўны. Нам ёсць чым ганарыцца, таму што Савецкая Радзіма — светач міру для ўсяго чалавецтва. Цяпер у гэтым перакананы мільёны людзей, што жывуць на нашай планеце.

Міру і шчасця я жадаю сваёй дарагой Радзіме! Міру і шчасця вам, дарагія сябры, і вялікіх поспехаў у вашай карыснай працы!

Людміла КУДРАЎЦАВА, адказная за культурна-асветніцкую работу ў аддзеле ССГ г. Шарлеруа.
Бельгія.

Супрацоўнікам таварыства «Радзіма» сардэчна дзякуем за вялікі клопат пра нас у час нашага знаходжання ў горадзе Мінску, за добры пачатак нашай дружбы.

Віншуем усіх са святам 70-годдзя Вялікага Кастрычніка! Жадаем вам міру і працягу сяброўскіх традыцый!

Вера і Вайнэ ХЬЕЛМ, Пека ЛАЙНЭ.
Фінляндыя.

Дарагія сябры!

Прыміце нашы сардэчныя віншаванні і добрыя пажаданні са святам 70-й гадавіны Вялікага Кастрычніка. Жадаем здароўя, поспехаў у высакароднай рабоце і міру на зямлі!

Сяргей і Антаніна КАРАНІКАС.
Швецыя.

Шлём калектывам Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» нашы сардэчныя віншаванні з 70-годдзем Вялікага Кастрычніка!

Жадаем вам, многанацыянальнаму савецкаму народу працвітання і вялікіх поспехаў ва ўсіх справах, міру і шчасця!

Жаночая секцыя Рускага культурна-дэмакратычнага саюза г. Хельсінкі.
Фінляндыя.

## ІНТЭРВ'Ю З СУАЙЧЫННІКАМІ

# ПРА ГЭТА МЫ І МАРЫЛІ

Апошні нумар часопіса Саюза савецкіх грамадзян у Бельгіі «Патриот» падаспеў своечасова. Пошта прынесла яго літаральна за некалькі гадзін да нашай сустрэчы са старшынёй аддзела ССГ горада Монса Кацярынай Штэйн і сакратаром аддзела Вольгай Яромінай. У часопісе было многа матэрыялаў, прысвечаных юбілею Кастрычніка, а ў раздзеле «Жыццё ССГ» цэлую старонку займала аб'ява:

«Паважаныя суайчыннікі!

Цэнтральнае праўленне Саюза савецкіх грамадзян у Бельгіі запрашае Вас, вашы сем'і і блізкіх сяброў на ўрачыстае святкаванне 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якое адбудзецца 8-га лістапада 1987 года ў 15 гадзін 30 мінут па адрасу...»

Далей ішла поўная праграма свята. Тэкст аб'явы паўтараўся на французскай і фламандскай мовах, а на наступнай старонцы даваўся падрабязны план праезду да месца, дзе адбудзецца свята.

З гэтага і пачалася наша размова.

— Так, схема заняла цэлую старонку часопіснай плошчы, але гэта неабходна. Наша арганізацыя доўга рыхтавалася да свята, і мы чакаем, што ў ім прымуць удзел калі не ўсе члены, то па крайняй меры прадстаўнікі ўсіх аддзелаў, — растлумачыла Вольга Андрэеўна. — Нашы суайчыннікі жывуць у розных гарадах Бельгіі, а павінны будуць знайсці гэтую залу ў вялікім Бруселі. Дарэчы, і самі мы будзем карыстацца гэтай схемай.

— Значыць, сёлета святкаванне Кастрычніка будзе сумесным мерапрыемствам усіх аддзелаў?

— Гэта не зусім так. Свята будзе адзначацца ва ўсіх гарадах, — сказала Вольга Андрэеўна. — У нас у Монсе, напрыклад, суайчыннікі збяруцца 7-га лістапада, ну а 8-га будуць урачыстасці ўсёй арганізацыі. Мы заўсёды адзначаем святы нашай Радзімы і хочам, каб такі знамянальны юбілей, як 70-годдзе Вялікага Кастрычніка, прайшоў асабліва ўрачыста.

— 7-га лістапада — самае вялікае свята для савецкага народа. Мы, савецкія грамадзяне ў Бельгіі, заўсёды лічылі і лічым сябе неадрыўнай часткай свайго народа, хаця і жывём далёка ад Радзімы, — уступае ў размову Кацярына Штэйн. — Кастрычніцкая рэвалюцыя крута змяніла лёс нашай Радзімы, прынесла працоўным вызваленне ад эксплуатацыі, адкрыла перад людзьмі такія магчымасці, аб якіх яны раней і думаць не маглі. Вялікую ролю адыграла рэвалюцыя і асабіста ў нашых лёсах.

Кацярына Міхайлаўна на некаторы час задумалася, мусіць успомніла сваё жыццё, а затым працягвала: — Вы ведаеце, з ранняга дзяцінства я ганарылася тым, што нарадзілася ў год Кастрычніка. Чаму? Я не бачыла, як жылі людзі да рэвалюцыі, але мне многа расказвалі аб гэтым і дома, і ў школе. У тыя гады па ўсёй краіне ішлі грандыёзныя пераўтварэнні, узводзіліся індустрыяльныя гіганты, вялася калектывізацыя. Сродкаў не хапала, людзі жылі даволі бедна, але ніхто не скардзіўся, усе былі поўныя энтузіязму і ведалі, што хутка будуць жыць лепш. Так яно і здарылася. Ну а пра дзяцей размова асобая. Нягледзячы на беднасць краіны, нам аддавалі самае лепшае. Мы вучыліся, ездзілі ў піянерскія лагеры і таксама былі поўныя энтузіязму і аптымізму. Мы адчувалі сябе падрастаючай зменай пакалення, якое здзейсніла рэвалюцыю, і нам трэба было ператварыць іх задумы ў рэальнасць. Мы марылі аб тым часе, калі наша Радзіма стане індустрыяльна развітой, стане краінай перадавой навукі і тэхнікі, прыкладам для іншых народаў планеты. Мы радаваліся, што на нашых вачах жыццё хутка мянялася да лепшага. Я скончыла школу, працавала, потым паступіла ў інстытут. Упэўнена, што і ў далейшым усё ў маім жыцці было б добра, але перашкодзіла вайна.

Колькі год прайшло, а гэта страшнае слова да сёння адгукаецца болем у сэрцах мільёнаў людзей. Знішчаныя жыцці, пакалечаныя лёсы. Такое не забываецца ніколі. Як для Кацярыны Штэйн і Вольгі Яромінай, якая паспела ўжо скончыць школу, так і для тысяч нашых суайчыннікаў, якія сёння раскіданы па розных краінах свету, вайна перакрэсліла ўсе надзеі і планы. Яна разлучыла іх з Радзімай, але не змагла зламаць душы гэтых людзей. Фашысты пагналі тысячы юнакоў і дзяўчат на прымусовыя работы ў акупіраваныя краіны. Але і ў тых суровых умовах яны ганарыліся сваёй Радзімай, былі ўпэўнены, што яна выстаіць і пераможа. Любоў да Айчыны прымусіла гэтых людзей і пасля вайны шукаць адзін аднаго, ствараць свае арганізацыі.

— Сёлета ў верасні мы адзначылі 40-годдзе нашага аддзела,—гаворыць Вольга Андрэеўна. — Ужо да сорак сёмага года ўсе мы аднавілі сваё савецкае грамадзянства і будзем грамадзянамі сваёй Радзімы да канца жыцця. Мы разумеем, што перамога ў Вялікай Айчыннай вайне стала і яшчэ адной перамогай рэвалюцыі. Толькі дзяржава з сацыялістычным ладам магла ўстаяць пад такім магутным ударам агрэсара, які падмяў усю Еўропу. Пачуццё гонару за Радзіму (мы зведваем яго заўсёды) становіцца яшчэ большым, калі мы самі прыязджаем сюды і бачым, якіх вялікіх поспехаў дабіўся савецкі народ за пасляваенны час.

— Вось іменна,— пацвярджае Кацярына Міхайлаўна. — Сёння мы рэальна можам бачыць у вас у краіне тое, аб чым мы некалі марылі. Я, напрыклад, толькі што прыехала ад сваякоў з Барысава. Як змяніўся, пахарашэў за два гады горад! Усе мае сваякі падзяліліся са мной сваімі радасцямі. У адных сын паступіў у інстытут, другія атрымалі кватэру, некага павысілі на пасадзе і гэтак далей. І ні ад каго не пачула ніводнага слова занепакоенасці, што заўтра ўсяго гэтага можа не быць. (А як баяцца згубіць работу, а значыць і ўсё працоўныя на Захадзе!) Вось дзе рэальныя, адчувальныя вынікі Кастрычніцкай рэвалюцыі.

— Яшчэ хачу сказаць, што мы з Вольгай «тэлявічкі», — смяецца, бачачы, што я не зразумеў, Кацярына Міхайлаўна. — Гэта значыць, што мы вельмі любім глядзець тэлевізар. Дык вось, раней многіх перадач, якія мы бачым цяпер, не было. Гаварылася толькі пра добрае, а дрэннае замоўчвалася. Цяпер усе недахопы адкрыта называюцца, шукаюцца шляхі іх вырашэння. Па гэтых перадачах мы зразумелі, што ў краіне сапраўды ідзе перабудова. Пераўтварэнні, якія адбываюцца, называюць рэвалюцыйнымі. Яны, як і рэвалюцыя, канчатковай мэтай ставяць паляпшэнне жыцця народа. Мы можам іх толькі вітаць і пажадаць вам хутчэйшага іх ажыццяўлення. Наша Савецкая Радзіма стала за семдзесят паслярэвалюцыйных год развітой і магутнай дзяржавай. Аб гэтым мы і марылі. Але мы рады таму, што ў сэрцах савецкіх людзей няма заспакоенасці, што яны імкнуцца ўдасканаліць свой грамадскі лад і сваю краіну. Аб ўсім, што бачылі на Радзіме, мы будзем гаварыць у сябе на святкаванні 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

З гэтым юбілеем мы хочам павіншаваць увесь савецкі народ. Жадаем вам новых поспехаў! Жадаем, каб тое, пра што вы сёння марыце, хутчэй стала явай!

Рыгор ФАМЕНКА.

